


# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 5 (33), сакавік 1993 г. Цана 3 рублі


**ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ:**

Можа, быў ты шляхціцам?

✦

Вяртанне да зямлі былой калгаснай

✦

Хто намі кірye? І як?

✦

Мастацкія фільмы рэшты тэлетыдня

## Утаймаванне «свавольнікаў»

Штодня ўсё мацней зацягваецца пятля на хударлявай шыі айчынных газетаў ды часопісаў. Усё цяжэй дыхаць колісь дазволенай галоснасці...

На пачатку большасць вядучых выданняў добраахвотна-прымусова загналі пад крыло Саўміна. Потым, выкарыстоўваючы метады, якім навучылі ў вышэйшых партыйных школах, распачалі ўціхамірваць «свавольнікаў».

І вось ужо галоўны рэдактар «Народнай...» Язэп Сярэдзіч цяжка выдыхнуў «Не магу маўчаць!». Можна толькі ўявіць, як дапяклі галоўнага адной з найпапулярнейшых газетаў, калі ён вымушаны з яе старонак вось так звяртацца да грамадскасці.

А што робім мы, журналісты іншых выданняў? Ды проста назіраем са сваіх кабінетаў, як калектыў «НГ» адстойвае сваё (і нейкім чынам і нашае) права вольна думаць ды пісаць.

На што спадзяемся? Што чарга не дойдзе да нас?

Ілюзія! Калі не навучымся змагацца супольна, усім сваім журналісцкім цэхам, то перакрыюць «кісларод» кожнаму па адным. Якім чынам? Калі не дзікунскімі цэнамі на паперу і друкарскія паслугі, дык неймавернымі падаткамі-зашморгамі. Калі не высяленнем з рэдакцыйных памяшканняў, то судовымі іскамі незадаволеных праўдаю «бывшевиков».

Гісторыя нагадвае нам, што тыя, хто пасля кастрычніцкіх падзей 17-га моўчкі сцярпелі разгон бальшавікамі апазіцыйнай прэсы, праз дваццаць гадкоў трапілі ў цёмныя сутарэнні НКУСа. Масавыя забойствы і лагеры—вынік маўчання, духоўнага прымірэння з дэспатызмам.

Сваім маўчаннем мы, працаўнікі сродкаў масавае інфармацыі, можам дапамагчы вяртанню на старонкі перыёдыкі, у эфір «старога добрага» партыйна-савецкага стылю. Нязгодных зноў прымусяць пісаць «у стол» ці выпускаць самвыдат.

Падзеі апошніх тыдняў ясна паказваюць, што камусьці карціць зноў паставіць журналістаў у колішнюю вельмі мілую ягонаму воку позу пытальніка. Бо так лягчэй кіраваць намі ды весці ў «светлую будучыню».

Аднак не варта забывацца й на такую вядомую ісціну: тых, хто пачаў падымацца з каленяў, на іх ужо не паставіць.

**РЭДАКЦЫЯ.**



НА СВАЕЙ ЗЯМЛІ

*Тэрмінова ў нумар*

**Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧУ**
**Членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета**

Паважаны Старшыня, члены Прэзідыума!

Апошнім часам нам сталі вядомыя факты, якія сведчаць аб сур'ёзных злоўжываннях пры выкарыстанні дзяржаўных валютных сродкаў.

У прыватнасці, Кантрольная палата нядаўна разглядзела справу аб незаконным выкарыстанні Міністэрствам аховы здароўя і камерцыйнымі структурамі 3 млн. долараў, адпушчаных на закуп найбольш неабходных лекаў і медыцынскага абсталявання. У выніку праверкі высветлілася, што сумнеўныя здзелкі ажыццяўляліся з санкцыі Старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча і пры непасрэдным удзеле ягонай жонкі Алены Кебіч, якая прадстаўляла інтарэсы сваёй камерцыйнай фірмы.

Аднак многія акалічнасці засталіся нявысветленымі, бо Кантрольная палата ў межах сваіх функцый разглядала пераважна фінансавы бок гэтай справы, але не закранала іншыя істотныя пытанні. Даць адказ на іх можа і павінна парламенцкае расследаванне. Таму мы настойваем на неадкладным стварэнні Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Часовай дэпутацкай камісіі, якая б усебакова вывучыла гэтую справу, а таксама грунтоўна праверыла, як наогул выкарыстоўваюцца дзяржаўныя валютныя сродкі, і падрыхтавала гэтае пытанне да разгляду на нечарговай 11-й сесіі Вярхоўнага Савета.

25 лютага 1993 г.

**Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь**
**С. Навумчык, А. Волкаў, І. Германчук, Ю. Беленькі, С. Антончык, В. Голубеў, В. Алампіеў, Я. Цумараў.**

### На ўік-эндзе пра хэпі-энд у нацыянальных адносінах

Апошні ўік-энд лютага прайшоў у Віцебску пад знакам міжнароднага форума «Нацыі, межы, лёсы». У ім апроч прадстаўнікоў рада дзяржаўных міністэрстваў і камітэтаў пры Савеце міністраў, навуковых, грамадскіх і турыстычных арганізацый Беларусі, удзельнічалі дыпламаты, вучоныя з усіх сумежных краін ды Малдовы. Абмяркаваны праблемы палітычнага і нацыянальнага жыцця, працэсаў міграцыі насельніцтва ў нашай і іншых дзяржавах, развіцця турызму ў Рэспубліцы Беларусь.

**Н. КІЛДЗІНГ.**

### Гародня ўшанавала. Чарга за Віцебскам

Напрыканцы студзеня адбылася ўрачыстасць з нагоды 130-х угодак паўстання 1863 года і 155-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. На ёй прыняты зварот да ўладаў з прапановамі па ўшанаванню памяці змагароў за волю. 24 студзеня ў Фарным касцёле адбылася імша ў гонар памяці паўстанцаў, якую замовілі дэмакратычныя арганізацыі гарада.

**У Віцебску імша з тае ж нагоды адбудзецца ў сакавіку ў касцёле св. Варвары.**

**Ю. ТУТЭЙШЫ.**

*Не верыцца*

### Не стала «компаса»

З паліцаў ды вітрынаў віцебскіх кнігарняў зніклі і не вяртаюцца назад працы Леніна й іншых ленінцаў і прадаўжальнікаў іхнай «вялікай» справы.

З гэтай нагоды ўзнікае адно галоўнае пытанне: па чым жа зараз звяраць наш шлях да «светлае будучыні». Як бы не заблудзіцца...

**Б. ВАНДРОЎНІК.**

### Туга па цікавай кніжцы

Якія беларускамоўныя кнігі папулярныя ў Віцебску? Апошнім часам найбольшым попытам (хуткі распродаж дашчэнту) карысталіся двухтомны «Руска-беларускі слоўнік», зборнік твораў паслязваенай эміграцыі «Туга па радзіме» і «Прыгоды Піркса» Ст. Лема.

**Ю. Т.**

*У мясцовых філіях*

### ЗА МІР МІЖ БЕЛАРУСАМІ

Утворана Берасцейская гарадская праваахоўная арганізацыя, якая грунтуе сваю дзейнасць на ліберальных ідэях. Ейная мэта—зацвярджэнне талерантнасці і верацярпімасці ў стасунках між людзьмі, між уладаю, дзяржапаратам, з аднаго боку, і грамадзянамі—з другога.

Кантактныя тэлефоны праваахоўнай арганізацыі: **5-40-28, 41-32-46, 43-37-17.**

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

### НЕ БУДЗЬМА АБЫЯКАВЫМІ

Праўленне Магілёўскай гарадской філіі БНФ прыняло заяву, у якой гаворыцца пра адну з найбольш вострых праблемаў—сённяшняе становішча былых вязняў камуністычнага рэжыму.

Паўсядзённы клопат, дапамога і ўвага з боку мясцовай улады, дабрачынных арганізацый і ўстаноў да лёсу рэпрэсіраваных павінна, на думку складальнікаў дакумента, забяспечыць дзяржава.

У заяве выкладзены патрабаванні да народных дэпутатаў, прадстаўнікоў выканаўчай улады неадкладна разгледзець становішча былых ахвяраў незаконных рэпрэсій і аказаць ім усю неабходную дапамогу.

**Ю. С.**

### МЕСЦА СУСТРЭЧЫ ЗМЯНІЦЬ НЕЛЬГА

У слушнасці гэтай фразы з вядомага тэлесерыяла нядаўна пераканаліся сябры клубаў «За дэмакратычныя выбары» й «Узгор'е». Месца іхных паседжанняў засталося ранейшым—гарадскі цэнтр культуры, а вось час памяняўся. Узгорцы сустракаюцца цяпер зноў па аўторках а 19 гадзіне, а сябры клуба «За дэмакратычныя выбары» і БНФ—па серадах у 18 гадзін 30 хвілін.

**Назіральнік.**

